**Слова перакладчыка.**

Пераклад ідыліі (сялянкі) з назваю “ВЁСКА “ Юзафа Ігнацы Крашэўскага прымеркаваны да ягонага 200-гадовага юбілею (27.7.1812, Варшава – 19.3.1887).

Тэкст быў перастворaны мною на беларускую мову цягам года і колькіх месяцаў, з перапынкамі ў працы. Даводзілася шматразова перапрацоўваць сырыя тэксты і больш уважна ўчытвацца ў даволі няпросты тэкст аўтара.

Варта заўважыць, услед за некаторымі даследчыкамі, што творы І.Ю. Крашэўскага паўплывалі на творчасць Янкі Купалы. Прынамсі, у тым, што паэма “Курган” (1910 – 1912) Купалы напісана не без уплыву старонак з «Вёскі», лёгка пераканацца шляхам самага простага аналізу.

Вельмі ўдзячны людзям якія паспрыялі у гэтым перакладзе крытыкай, а таксама прапановамі па тэксту, – гэта Руслана Гусева, Ірына Гусева якая раней за мяне пераклала «Вёску», на расейскую мову, Леанід Гарустовіч, Яўген ды Галіна Бяласіны, Міхась Маліноўскі, Рыгор Руцкі, Мікола Сянкевіч ды іншыя.

Асабліва ўдзячны Яўгену Бяласіну, які найбольш выдаткаваў часу на крытыку ды прапановы да гэтага перакладу і нават месцамі паралельна стварыў свой пераклад Вёскі, мяркую, па-свойму цікавы. Многія ягоныя заўвагі і прапановы былі ўлічаныя мною як слушныя.

На беларускую мову “Вёска” Крашэўскага перакладзена ўпершыню.

# ВЁСКА

*Сялянка*

*Пераклад з польскай мовы Міколы Папекі*

1.
Вёска! Апявалі цябе галасы залатыя,
На зямлі нашай грэшнай ты як вобраз раю.
Ля грудзей ўзгадавала пакаленні былыя!
А цяпер прыгажосць тваю, моц забываюць?
Яшчэ ведае хто і так любіць як трэба?
Даеш ціхага шчасця, надзённага  хлеба!
Ты – Карміцелька, Мамка,– дабра ўсім хацела:
Паэзія твая для душы і хлеб твой для цела.
Мамка! Дзеці якую няўдзячна забылі,
Твае волаты з часам адзнаку карлаў здабылі.
Ты хаваешся сёння ў снапы ды ў дрэвы.
Сядзіш у самоце, больш не чутныя спевы,
Сям'ю рэкамі атулена, сям'ю гарамі закрыта.
Дзеці ў калысцы ўсміхаліся, калі была маладою,
Праз тых марнатраўных сыноў засталася забытай.
Песня твая іх не цешыць, краса твая стала другою.
Лежняў буйных гарадоў, з іх брудам, балотам,
Да маткі на лона не прыгоніць журбота.

2.
Ціша, спакой над табою, сонца ў нябёсах.
Навокал дрэмле поле, рыба у плёсах.
Доўгіх стагоддзяў, часоў непарыўная ціша
Каласы на палях, галінкі дрэў закалыша.
І рэк сцішаная плынь, дым вясковае хаты.
Няспешны старац спыніць позірк ў аблоках

І слухае, як вольную песню выводзіць араты,
Якому лясы адгукаюцца ды пагоркі ў аблогах.

Ціша! Самотны птах з вяскоўцам спявае,
Неба іх слухае, вецер усё спавівае,
Слухаюць лес і камень, не бачны здалёку,
Воблакі, гнаныя ветрам з заморскага боку, –
Яны усё разумеюць і, як часта бывае,
Кроўная сувязь дзяцей зямлі гэтай трывае.

Як тут мысліцца вольна! Як тут думаць міла!
Жыцьцё праляцела й павекі прыкрыла.
А звон, што старцу зазвоніць на пахаванні,
Застыне думкаю ў маршчынках дазвання.

Жыццё, што рэчак вада, сыходзіць ляніва,
Тыя што сеялі жыта, чакаюць і жніва,
А так міла ў гэтым краю ўсім жывецца,
Болей не прагнуць. Хто за іншым памкнецца?

Супакой тут! Усяісны, – не да весялосці,
Бо ў гэтым спакоі спяць горасці госці,
Ды і гора ў жыцці прыхавалася ціха,
Каб енкам сваім не наклікаці ліха.
Пад кронамі дрэваў жоўтае лісце ляжыць.
На могілках большасць вясковых радзін.
Колькі разбітых тут сэрцаў ня здолела жыць,
Колькі ў ног тых людзей лягло горкіх гадзін!

3.

Але гляньце на вёску… яна яшчэ дрэмле,
Спавітая ў морак і дым, як дзіця ў калысцы малое,
З надзеяй глядзіць на вясеннюю землю.

І нешта да яе пяшчотна, як да мамы прамаўляе…
Ручай тут спыніўся на лузе паслухаць размовы,
І бярозы здалёку глядзяць урачыста;
Зялёныя свае валасы, – схілілі й галовы,
А травы ў вадзе зіхацяць прамяніста.

Усё тут ўсяісна і кроўна зьвязана:
Людзі й жывёла, зямля і неба,
Повязі ’шчэ з сусветамі не разарваны,
Што ў мудрацах ды вясковічах маюць патрэбу.

Кожны ўсё разумее, бо тут радасьць адзінства,
Што Бог стварыў пры сабе на карысць усім так
Як пёс да пана вачамі вясковец у небе з дзяцінства
І з кожнай там зоркай гаманіць ён мастак.

Узыйдзі на ўзгорак і паглянь на разлог зялёны
На чорныя вёскі, капліцы , лясы і загоны,
На палі і срэбныя рэчкі, што звіваюцца вужам,
Нібы скручаны гужам;
Пажыві, паспрачайся на гэтым ты свеце,
Што мілейшае ад вёскі на нашай планеце?
Дзе лепшы прытулак яшчэ для зняверцаў:
Хто так прыйме выгнанца са шчырым сэрцам?

4.
Я тады знепакоіўся вёскаю нашай старою,
Як пабачыў магілы на ўтравелых ўзгорках,
І тады залаты краявід засціла шэрай імжою,
Ды ажывалі гады ліхалеццяў у войнах і бурах.
Калі падымалі дзяцей для няпэўнае долі,
З-пад зямлі адзываецца тысяча галасоў і болей,
З дрэў птушкі прарочаць песняй старою.

І дуб векавы спавядае пра тое, што сніцца;
Вынікае мінулае з трунаў прывіднай мрояю,
І да краю Дзядоў выпадае і нам спрычыніцца.

5.
Бач, як славянская вёска старая вясёлая.
Яшчэ не зазнала пажараў ды дзіды Мангола,
Сядзіш як дзяўчына ў зялёнай даліне,
Бог – ручай струменіць ля ног тваіх плыні.

Свеціцца, свежаю гонтаю крыта, святыня,
Зеляніць гарадзішча і вогнішча месца чарнее,
Невялічкай палянкай  перарвана пустыня,
І жменя шчуплых калоссяў на таку палавее.

Багатае ўбоства, бо так мала патрэбна!
Была б вада ў крыніцы, ды кашуля зрэбна,
Яшчэ праснак з агменю ды кубак сырадою,
Дарослым і малечы тады не быць з бядою.

Сядзіць на ганку згінае лук і цягне спяваньне.
Песьню усходняй айчыны, з якой часамі тымі
Голад выгнаў, паморак, а ён не згубіў спадзявання,
Што дух ягоны справамі акрыліцца святымі.

6.
Спрадвеку вольныя, сядзелі ў лясах Белавежы
На бяскрайніх прасторах без загонаў і межаў,
Дзе  супольнага ладу люд яшчэ не знайшоў,
Богі раяць ксяндзам скінуць паганскіх жрацоў.

Багам будуюць капішчы, і гарады ў дастатку

Звялічваліся сёлы ды множыліся статкі,
Забыліся на дзіды і стрэлы без нагоды,
Паміж людзьмі была тады святая згода.

Жыццё, як сон, было, ці як вясною выйсце;
Калі раслінка першае пускае лісце,
Свеціць ёй неба ясна, раса спавівае,
Раней за буру з грамамі, дождж палівае.

Але час гэты мінуў... Прылятае з Усходу
Навала з няведамага імені й роду,
Сарвалася божа рака; усё ў ёй патоне,
А след крыві бачны ў крывавым сутонні.

Расступіліся лясы, высахлі ля рэчак лозы.
Полымя б'е з-пад капыт ды ляцяць пагрозы,
Вось прамчалі, а за імі пустка, папялішча,
Толькі вецер хаўтуры ў касцях людскіх свішча.

7

Зноўку ўбралася сяло ў зелень адмыслова.
Упрыгожаны палі, свежыя магілы.
З бёрнаў спалены хаты паўсталі нанова,
Зарунеліся жытамі ўзгоркі і схілы.

Ды вясковец у бакі зыркае трывожна –
Вецер вестку нясе стуль аб бурах ды войнах,
Лук напяў, ды сякеру навастрыў асцярожна,
А магілы бацькоў – на стражы дастойнай.

Так стаптана быдлячым капытам расліна,
Калі маці зямля подыхам яе ды ажывіць,
Кветку кволую ўздыме, ды морак, як клінам,

ёй знядужану ножку і хіліць, і крывіць, –
Бы глядзіць у той бок, скуль ўспамін прыгнятае,
Лёсам гноблена, церпіць і боль памятае.

8
Паміж вёскі ўзняўся горад
гароджаны тынам,
Валамі атулены – тых падпалаў сын ён,
На ім сядзіць князь і войска годнае
І сьвятыня паўстала і веча народнае
Стагоддзі зьнікаюць, а вёска ўсё чорная;
Да крыжу цьвінтарнага магілы горнуцца.
Пахрышчаным у свет новы адчынены дзверы,
Убогі пробашч нову кроў ушчапіў старой веры,
Знішчаны драўляныя ідалы Перуна і Лады,
Спявае люд таемна пра іх свае балады,
А смутак ў грудзях застаўся ціхі, заганны,
Як прыгаршня жару ў прысак на нач схаваны.
Паданні, песні, казкі з вёскі выганяюць,
Крыюцца яны ў магілах, у стэпу гуляюць.

9
З малога гарадзішча паўстаў замак шырокі,
І кіруе далінаю і ўладарыць на сёлах.
Касцельныя вежы ўзнясліся пад аблокі,
З чорнымі крыжамі на грудзях ды у галовах.
А ў старым замку вісіць зброя каваная
І рыцар жалезны адпачывае пасля бою,
Яго рукі стомленыя, журба не прыхаваная,
Сэрцу яго, рукам ні ў дзень ні ў ноч спакою.

Ён глядзіць ды слухае скуль вайну пачуе,

На каня сядае шпарка, – біць нечысць шыбуе
А вернецца мёртвым, старым ці калекаю,
Спіць спакойна, вёска, пад сыноў апекаю.

10
Не ў гарадах жылі за даўнімі часамі,
Там немец жыў, там рынак споўнены галасамі,
А шляхта ў мурах тужыла ды па вясковых гонях,
Сашніка ці зброі патрымаць ў далонях.
Да бою рыхтаваўся мужчына, і быць забітым,
Зямля, вера мацавала, – не будзе забытым,
І цешыліся вёскай у даўняй добрай хаце,
А вёска была вернай, як родная маці.

11
А куды ні пойдзеш, – песня, звініць кварта:
Янка з Чарналесся вясковае вяселле вітае,
А думка ягоная сотням нямых думак варта,
Тое будуць узгадваць доўга, але ўсё мінае.

Бо ўсё ім тут міла ды й паветра пасуе
І дух здаровы ў целе, і сіл не бракуе,
З імі думка Бога, што ў палях красуе.

У горадзе шумным ім стала маркотна,
Гандляр і рамеснік з’язджаюць ахвотна,
З сардэчнай трывогай ў вясковую глуш,
За час адпачынку не аб’еліся б груш.

Кожны раз як да хаты я вінен вяртацца,
Любуюся стрэхамі тымі, што скарб мой хаваюць.
Ды глянь! Пайшлі дымам і скарбы, і праца,

што вернецца, тое,  і тое, што не ажывае;
Аслупянеў, і пяшчоты сьляза, што з’явілася,
На крывавыя сьлёзы смутку і помсты змянілася.
Ёкнула сэрца, здрыганулася, як меч у далоні,
Паляцеў за набрыддзю, – не вярнуўся з пагоні!

12
Меншым братам навука, вялікі вясковы род,
Двор і вёска разам у неўрадлівы год;
Адзін на ўсю вёску круціцца колаварот,
Адна іх доля вяжа, адна зямля брата,
Адзін звычай, адна мова і хата.

Вёска ўжо не тая, што ў лесе была схавана:
Павалены дрэвы, – золатам ззяе паляна.
З гары глядзіць магіла ў далячынь і неба,
З браточкам курганам прывітацца ж трэба.

Дзе раней пушча была, пянькі ды завалы,
Густы маладняк закрывае прагалы,
А поплаў зялёны паўзе ў цёмны гушчар,
Падслухаць размовы лесу, таямніцы чар.

13
З пракаветных часоў засталіся паданні
Магілы, у іх прыгаршчы праху ды косці,
Дзіды трушчаны ржой, скрываўлёны, як здані,
Часам лемех адверне гаршчок з прахам кагосьці,
Шлем, якім урна накрыта, і сякеры з каменьня,
Рэліквіі, але без жыцця, думкі, наймення.

Араты дзівіцца, жмурыць вока хціва

І шукае скарбы дзядоў у магіле забытай,
Бо вярэдзяць паданні бліскавіцай крэ`сіва,
Продкаў песьня забыта,  быліна пражыта.

Даўнія дзеі для іх як цуд, што й нечакана,
Чэрап  знойдзены продкаў – ім косць веліканa,
Стары байкар аслупянелым унукам тлумачыць,
Што прах гаршчкоў, што кроў засохлая значаць.

У асноў пірамід, ля старарэчышчаў Ніла,
Тых нашчадкі, хто з каменя зладзілі хаты,
Аглядаюць тут друз, што часу вада нарабіла.
Спрэс забыты пісьмёны, а так напісана багата.
А спытаюць, узвёў хто спаруды разбітыя,
Дык пачуюць Багоў, духаў імёны забытыя.

14
Хто ведае, то забытая памяць, ці рэшта трывогі,
Як не забыць Багоў старых, не збіцца з дарогі?
А душа, што здаецца маўклівай, нешта хавае,
Многае чуе і ўсё для сябе памятае?

Аб кожнай руіне нешта ды скажа мудрэц,
І кожную магілу дух песні вартуе
На старым гарадзішчы сівабароды жрэц
Святкуе Купалле і тым моладзь гартуе,
Але хто іх падслухаў? Разгадаў таямніцы ночы,
А чуць дзецям цікава, аб чым старац прарочыць?

О! Прыемна вітаць у вяках някропаля,
Ад магіл да ўзгоркаў ісці, слядзіць і пытаць,
Часам уся падзея з’яднаная назваю-кропляю,
Часам з паўслова пранікнеш у стагоддзяў гаць.

Тураў Гай, – а дзе тыя туры? Богаград, – а дзе Богі?

Гарадзішча, дзе твой Князе, дзе твой Абаронца?
Зніклі на вякі тайны і продкаў трывогі,
Новаму свету свеціць тое ж старое сонца.

15
Са старых пажарышч на цвінтар хадзем за сёлы:
На ўзмежку крывыя вербы раскінуліся вясёла,
Вал нізкі, хвортка з крыжам. Жаўціць-зеляніць,
Крыжамі, крыжыкамі, каменнем мільгаціць.

Ціснуцца магілы. А іншы свет новы!
Не буяць вам, нябожчыкі, па гарах і стэпу
Шкада зямлі для памёрлых –голавы да галоваў,
Спаць вам ўсім цесна чэрап пры чэрапу.

Хутка месца не хопіць, так пакойнікам цесна.
Добра ў склепе асобным мець уласнае месца,
А зямлі так мала, а людзей так многа,
І жміндзіцца магільшчык на зямлю нябогам.

Вітаю! Вас, магілы люду працавітага!
Вас штогод са слязьмі наведваюць госці,
Кожны тут радню шукае самавіта,
Дзядам нясуцца стравы і песні жалосці.

Пакінулі працу селі галосяць прылюдна,
Слёз хаўтурных зноўку выліты джарэлы,
Лямант маці і плач жонак лунае паўсюдна,
Усё ім кажуць: а ці ім тут добра, а ці не хварэла
І якая здохла кароўка, снапоў колькі нажата
Спавядаюць свой боль, спадзяванне і страты.

Госці магіл з нямымі вядуць размовы,
І гарачыя да зямлі прыхіляюць галовы,
Слязамі траву зялёную паліваюць.
Толькі тыя, што былі сіротамі пры жыцці,
З родных вуснаў вестачак не дачакаюць,
І ніхто не прынясе на пагост ім куцці.

У кутку магільніка зараснікі маліны.
Ніхто не хоча тут навесьці парадак,
Толькі дрэвы з літасці ўзнеслі галіны
Да тых згнілых крыжоў ды аградак.

Часам скацінка заблудзіць на магілы,
А нашто зганяць? Хто ведае? Мо’ пану міла.
Калі карова замыкае ў знак сваёй жальбы,
Калі бычкі стукаюць у магілу, абіваючы ілбы.

Часам надоўга дарога зарасце да магіл,
Ды зноў жоўтым жвірам Сьвятая Зямля ўкрыта,
Вязуць валы чорныя труну на магільны схіл,
А ў дамавіне малая дзяўчынка спавіта.

Бацькі ёй спраўляюць хаўтуры й вяселле!
Ёсць сяброўкі, ручнікі, каравай ды вянец,
Толькі няма музыкі, няма душы ў целе,
Суджаны ёй могільнік, а крыж ёй – каха`нец.

16

Пойдзем у лес. Вітаю, мінуласці сведкі.
Жрацы даўніх Багоў, – на галовах вянкі.
Ці тое старцы шэпчуць, ці дрэвы так рады?
О! Не старцы – то думкі таемнай грамады.

У зямлю паглядаюць, трымаюцца шчыра –
Раней целам памрэм, чым душа трапіць у вырай.

Не! не старцы то шэпчуць, – стары лес гаворыць!
Векавы дуб, – з сасной мову адвечную творыць.

Слухай, тоіцца што ў іх паважнай гамонцы:
Так не баюць бярозы ды ў іхняй старонцы,
Песня, як растрапаная дзеўка ў нядзелю,
Так ганяецца, гэта ж не прасці кудзелю.

Дуб самотны размаўляе з небам ці магілай.
Цяжка яго зразумець, а слухаць так міла!
Сасна спеліць песню, падняўшыся да аблокаў,
Паважна калыхаецца ды глядзіць далёка,
То смяецца, то шуміць, то маўчыць прытворна.
За вясёлы зычны голас нат жучка прыгорне,
Рухлівага ветру пяшчотныя павевы,
А хто зросся з лесам, палюбіў і дрэвы.

А часам сумныя яліны над трунамі стогнуць
Да глыбінь магіл душы зачапіць не змогуць,
А чалавек іх слухае й плача, слухае ды мроіць.

Шуміць лясная песня і  ветру балады,
Птушкі падпяваюць і звяроў грамады.
А мы гэтай лясной мовы загубілі слова –
Хаця сэрца яе й прагне – ды не нам размова!
Шэпчуць зёлкі, што растуць для лекаў і чараў,
Мы не чуем, пагарджаем гэтым Божым дарам.
Звера рыку, птушак спеву мы не разумеем,
Чалавек парушыў сувязь – ці вярнуць здалеем.

О як міла ў лясах гэтых, целам калі прытаміўся,

Трапіў з клятага свету сюды, у кляштарную цішу,
У спякотнай вандроўцы ў гаю спачыць прыпыніўся –
Чуеш, вецер як голлем засохлым калыша,
І шчабечуць як птушкі, у кветках як бзыкаюць пчолы,
А з асін спарахнелых ляціць пошчак дзятла вясёлы;
Люба, люба пад гоман заснуць пад зялёным шатром,
Увабрацца са свежай зямлі ды напоўніцу ў сілы,
Дзённай стомы пазбыцца  душой і нутром,
Ціш такую люблю, супакой гэткі надта мне мілы!

17
На краю вёскі стаіць ляпянка,
У зямлю пагрузла, ўціснулася,
Адна стаіць збоку выгнанка,
А вёска яе ўстрашылася,
Адсунулася далёка;
Перад завеямі, перад спёкаю
Не засланілася самотаю,
У хатцы жыве старац, вяртанец,
Сівабароды, занядбаны ды гарбаты,
Аглохлы, сонны, ваўкаваты,
Але з-пад выцвілай кашулі
І з пад павек,  што часта спяць.
Й дзе грудзі сціснула тужліва, –
Калі  бледныя зыркнуць вачніцы,
Чые ж вочы тады не ўбачаць?
Тоіць старац у сабе таямніцы,
Ён раней без такой жыў руціны
І не гэткай пільнаваўся хаціны.

То быў ваяр, пагляд і твар адкрыты вабны,
І не адна відаць на ім зламалась шабля;
Дзеі вайны клінком спісалі яму твар,

А страх глядзіць, як ён душой ўратаваўся,
І цела пранізаў быў куляў шквар,
Шмат выцекла крыві – але жывы застаўся.

Шмат перажыў, сцярпеў і вытрымаў так многа,
Ды не дапытвайся ў яго, бо розум у дарозе страціў,
І дух, як птах ў клетцы, б’ецца ў целе да знямогі…
Ды Бог яму за тое ўсё бяспамяцтвам ад`плаціў.

Зрэдку дзеці да яго прыбягаюць у госці,
Той іх звабіць на грудок, а вятрак на плоці,
Цэлы дзень на іх цікуе, што гэта за школа,
Адны бавяцца пяском, а той круціць кола.

А бывае васількамі лысая галава ўквечана,
І песню вядзе, але не баявую, а знявечану,
Не песню маладосьці, а вёскі сум, завыванне,
У якой жыццё трымціць ды ёсць трыванне.

І так жыве, знядужаны. Яшчэ і сонца скварыць.
Бязлюддзе, холад. Бог пра смерць параіў марыць.

18
У дні спякоты, калі вёска стаіць пустою,
Дрэмле на сонцы вяртанец, бачылі людзі:
Адна яго толькі корміць, укрывае і поіць,
Наведвае ў няўтульнай, пустой халабудзе
Малая дзеўка, як і старац гаротная сірота.
Жыве з таго хлеба, што з ёю дзяціна дзеліць.
Хто яна? Хто ведае; пад касцельныя вароты
Прывалаклася ў той год на Зеляной Нядзелі;
Знайшлі яе соннай там пад старым плотам,
Ў світцы, з чорным сабакам, заплаканым вокам.

З тых часоў у вёсцы: сабачка Жучка і яна,
Хлеб паслугамі зарабляе, ціха, паслухмяна,
Маладая, а сумная, ды і слёзы не высыхаюць
Зіхатліва на бледных павейках мігаюць.
Усе дні на чужым агародзе і на чужым полі,
А ноччу з сабакам на прызбе ці на прыволлі.
А ў нядзельку каля цэрквы, дзе людзі прыхожыя,
Дзе малітвы – Такія сьпеўныя! Такія гожыя!

Усёй вёскай яе палюбілі, а вяртанец зрэдку
Пацяшаецца з яе і слёзна так шкадуе дзеўку,
Прамаўляе: “Пабачыш, удзячнае стварэнне,
Вырасцеш, ажэнімся, во будзе здарэнне!”

І сядзіць з дня у дзень тая пара, пільнуе вароты,
Воін-дзед ды сабака ды босая дзеўка бядота.

19
Пойдзем у поле шырокае. Куды ні ступіш, згадка,

У кожным дрэве песня квіліць, спявае нат градка,
Недарэмна вякі зніклі, жыццяў шмат пражыта;
Дзе магілы і ракою кроў лілася, стаяць снапы жыта,
А дзе зрэдку чалавек на падмурак рые канаву,
Часам на труну наткнецца, на нязвыклую з’яву!

Раней для трунаў людзі, зямлі гэтай госці,
Бралі дрэва скасьцянелае, у землях новых.
Мамант, што жыў тут, склаў свае косьці,
А ніжэй паразлегліся прашаркі глін каляровых,
Злегліся травы за тысячы гадоў канчыны,
Чаруюць задумамі, і мінулымі жыццямі чалавека,

А задумы тыя ў скамянеласцях рэдкіх заключаны.

Скрозь магілы! Скрозь тлен! Наш свет перастарак!
Меркне ў змроку адвечным былога абшарак!

Тая гара завецца Туравай, а ніжэй у даліне
Адхонны бераг дрэмле і Буг струменіць плыні;
А дзе мужык пад поле падымаў папар
Булаву здабыў каменну і урну для ахвяр.

З боку старая магіла даўно як пад лугам,
Там узгараць зямлю спрабавалі плугам,
Агалілі косці белыя і жоўтых пацерак нізку.
А з гліняных абрываў, што за вёскаю блізка,
Чарапы, – з якіх мыш ды верабей, – выглядаюць,
І калі дух людскі выжыў, і звяры выжываюць.

Усюды словы, сэнс якіх ніхто й не памятае,
Рэліквія з бацькоўскіх вуснаў ад прадзедаў вітае.
А хто цяпер знае, што значыць старое слова?
Для людзей таямніцы стагоддзяў, нібы заслона.
А сівы мудрэц святыням найлепшы дазорца,
За паганскія душы просіць ён шчыра Творца.

Раней богам паганскім была святая крыніца.
Хрышчаны пераплываў усцяж лясоў панішчаных,
А для людзей новых яна й цяпер бруіцца,
І вадой старою нашчадкаў пояць хрышчаных.

Памяць! Пястунка таго, што было тут калісьці,
Труны вартуеш, з іх мёртвых ажывяцца косці,
Ты сынам даеш продкаў, ты насяляеш пустыні,
З вуснаў тваіх і паданне, і песня ліецца,
Жарынка жыцця палае ў табе і не стыне,

Люд памірае – душа назаўжды застаецца!

Таго дуба люд вясковы заве дубам Рыгора,
Ніхто не знае чаму, хіба што ягоны ўзгорак,
Тут старац сядаў і ўнукі пад цяністаю кронай,
Дуб служыў парасонам, а камень той тронам.

Тут мірыліся ворагі, спрэчак сціхалі трывогі,
А калі ўжо яго не трымалі натруджаны ногі,
Дык сядаў і часоў спавядаў ён даўніх падзеі,
А дуб, што падслухаў, і сёння пра іх нема вее.

Тут хата Ганчара, а там крыніца Наталлі...
А людзі тыя назвы паважна прамаўлялі,
Ніхто не памятае жыцця іх ды пакут.
Памёрлі. А назваю сваёю ўсё ж засталіся тут.
Тут ставяцца з пашанай да ўрочышчаў сваіх,
Бо гэта мапы дзеяў, – не з друкаваных кніг.

20
Як чалавеку мала патрэбна для `жыцця!;
Здзіўляешся тым хатам з саломы-пакрыцця,
Нахіленыя сцены ды акенцы малыя,
Будынкі прыгожыя, а бярвенні гнілыя.

Дастатак і вандроўнік загляне да хаты,
Гаспадар калі сыты, апрануты, – багаты;
Але паглянь, –  дымок, што ўецца там з гары,
Магчыма, ёсць і тамака якіясь жыхары?

Што там, пташына гняздо? Або звярына яма?
Адным бокам спёрлася на лагчыну трывожна,
Сярод жоўтай гліны хатка чарнее плямай.

Гэта змысліць цяжка, а ўбачыць ледзь можна.

А-а-а! І тут жыве чалавек, і гэта ў наш час?
Хатка з травы ды калкоў, з камення і гліны,
З чорных і светлых жмутоў, сабраных у пас,
Сенцы вузкія, столь блізка й потыркам галіны.

Печ крывая па цэнтру, там стол, пара дошак
На калах чатырох, у падлогу ўкапаных, то ложак
І паліца пустая, да гаршчэчка збанок  адно туліцца,
Нібы цёмны цвінтар, а зімна, як быццам на вуліцы.

Пара лахманоў і кудзеля ў кутку, ля прыпечка,
Кот верны прыяцель схаваўся клубочкам у кут
Нібы дрэмле, ды зырыць драпежніка вочка;
І мыш сюды не прыйдзе, бо котка тут як тут.
Хутчэй яна збягае да панскіх хат,  палёў,
Схуднелы кот дарэмна чакае тут улоў.

Худыя курка й пеўнік паціхеньку снуюць,
Зерне шукаюць дзюбай, жаванае зноў жуюць,
Знядужаныя голадам ды холадам прыкуты,
Натапырылі пёры ды сядзяць надзьмуты.

Гаспадыня, як і ўсе, тут сумуе каля печы,
З трэсак паліць агонь, каб сагрэці плечы,
Як заўжды гасне сырое, схопленае холадам,
І дровы перабрала, і бульбы крыху ёсць,
Сухі акрайчык хлеба, – і змагайся з голадам!
Ды не скардзіцца старая, і не трымае злосць.
То сядае прасці, то паходзіць, пакрэкча,
То да пеўніка з куркай, то загаворыць з катком,
Перакусіць і выпье, падрэмле, пашэпча,
А дзе дом яе пахіліцца, падапрэ калком.

І пойдзе да ўнукаў – раскажацца казка,
На могілках хаўтурную песню вядзе
Павіншуе вяселле, і ўсё ёй не цяжка,
І дзень за днём паціху да смертухны йдзе.

Не звычная войкаць, але ў дні невымоўнае скрухі
Марта задумна, галаву апускае на змазолены рукі
Ціха сядае, і з шэрых павекаў на зблеклы той твар
Акіян успамінаў бязмежна сплывае слязамі ў яр.
І яна ж маладою была, ёй таксама хацелася,
Як і нам усім, што пазней адплакацца мелася.

21
Гэй двор! Стары двор, што стаіш на ўзгорку –
Табе блага, няйначай! Увесь ты ў няшчасці!
Пагрузіліся сцены ў праселым падмурку
І прасеў табе дах, на падворак гатовы упасці.
І затулены ліпамі, быццам узяў цябе сорам,
І на свет глядзець не хочаш, зможаны горам.

А бывала не так у твае маладыя гады.
Няўрымслівы флюгер круціўся на даху
Сонца ў вокны глядзела бы ў люстра вады,
І вышэй падымаліся сцены прасветлага гмаху.
Гэты крыж спарахнелы – раней свежы і белы!
Пакуль крыж быў цэлы, і двор быў цэлы!

Кругом пусташ і старасць! Дзядзінец парос,
Сцены гніюць, бо дрэвы старыя схавалі сонца,
Уязная брама развалілася ў цэглін стос,
Тын паваліўся, сплецены з ядлоўца.

Стары крыж, што плешшу віднеўся з падворка,

Упаў бурай зламаны, а другога няма;
Нудна ды бедна, дзіка, – і на сэрцы горка,
Смерць узяла ў абыймы, – не адпускае з ярма.

Топча прыхадзень хаты парог. Мэту мае.
Просіць грошай. Бярэ. За парогам знікае.
Кузня там, дзе быў крыж. Цыгановыя клецi.
У гародзе капліцу на склепа ён перарабіў,
З лука па абразах страляюць ягоныя дзеці.
Што яму? Што знайшоў, нажыў і неяк здабыў,
Не чапаў бы святога, ды дзяцей прыструніў!

Панскі двор цяпер вёсцы чужы, як і вёска двару,
І рукі не працягнуць, пра слоўка і не гавару.
Тых стасункаў святых і сардэчных няма,
Што з калыскі былі нібы самасць сама.
Што стагоддзі трывалі, пакуль азалелай рукой
Людзі іх не парвалі, замест каб ісці за іх у бой.

Раней паны? З'ехалі ў чужыя краіны далека,
А людзі не бачаць іх, а ўжо ім дахаты пара,
А людзі ўздыхаюць, дзе ранейшая тая апека,
І сэрца, і зрок сумна глядзяць да пустога двара.
Ды дарэмна! І двор, і паноў паланіла язда
А хто з'ехаў, не вернецца больш да гнязда!

22

Нешта сумны мой бусел
Звесіў дзюбу, шыю хіліць
І той клёкат больш не весел,
Не гучыць, а толькі квіліць
Скажы, птаху, што такое?
Хто і што цябе непакоіць?

– Гаспадару! не хапае болей,
Чым думку маю тую выманіць,
У маім сэрцы столькі болю,
Што й чалавеку не вымавіць.

Не хапае мне! – краю майго!
Тужліва за ім! то кара мне божая
Аблажылі мяне аднаго,
Толькі смерць і дапаможа!

– Скажы, птаху, што за кара?
Што ты занядбаў, не зладзіў?
Па-сяброўску ты абшары
з людзьмі дзеліш. Хіба здрадзіў?

Не! Паслухай! Такі ўжо лёс,
Калі свет быў яшчэ малады,
Жыў з братамі, дзе цёплы плёс,
Што Егіпту арашаў агароды.

О! Весялейшае было жыццё,
Іншае жыццё, іншае пер’е.
Разнаколеравае пакрыццё,
Іншыя сэрцы, жывёлы, павер’і.

Што ж, калі ніколі не меў сэрца?
Што ж, калі ніколі не знаў хаты?
Ляцеў весела з поплаву пагрэцца,
Ад радзіны кроўнай ў спраты.
Выкрадаўся дзесьці там за мора,
Смагны да навін і падарожжа,
Прагнучы наперад к зорам,
Дзе вецер вее, і дзе так прыгожа.

Гняздо меў я над карчмой,
Ды палёт спрычынен мой
Быў не сэрцам, `мараў мроі
Не давалі быць у спакоі.
Весела блукаў па свеце,
Жыў як быццам у вечным леце.

Свет, жывёлы і чалавека роўны,
Разбэсціліся ўсе ад распусты,
Судзяць аб усім са свайго чоўна
Пагражаюць Богу, дурныя густы.
Ён глянуў, здрыгануўся свет,
Хлынулі воды бязлітасна.
Як перад красуючым летам,
Усё навокал вадою зліта.

Ішлі да дзвярэй жывёлы,
Кажуць Ноевы паданні;
Стан жыцця іх невясёлы,
І жальба,  і смутак даўні,
Калі да каўчэга вялі
Гнаныя ішлі ратавацца,
Ўсе перад вачыма жывёлы
Сталі, каб з зямлёй развітацца
І кожны вачамі сачыў,
За гняздом,  якое пакінулі.
Адзінкі абраных з тысячаў
Адчайна ў дзверы рынулі
Няма слёз ні ў сэрцы, у вачах,
Зірнуў на засавы, што сонца схавалі,
Туды, дзе агмень зачах,
Дзе віхор, бура ды вадзяныя хвалі.

А Бог тое з верху бачыў:
“Праклён – вырак – праклінаю!
Жалобным пер’ем пазначыў,
І свет калі стаўся раем,
Каўчэг надвая раскрыўся,
І чорным мой строй падбіўся.
Лячу сабе на згубу
Да бацькаўшчыны любай.

Дзве іх разрываюць сэрца,
За адной з іх нялёгка, паверце.
Ляціць да другой, змучаны,
Але да радзімы прывучаны;
Усё так жыццё падзелена,
Раздвоена, – роспач, няўдача,
Вядзе так жыццё ненадзейна
Ды век па маім краі плача.

Дзве іх разрываюць сэрца,
За адной з іх нялёгка, паверце.
Лячу да другой я, змучаны,
Але да радзімы прывучаны;
Усё так жыццё падзелена,
Раздвоена, – роспач, няўдача,
Вяду так жыццё ненадзейна
Ды век па сваім краі плачу.

23
Вечар! Сонца пасмы распусціла залатыя,
І анёлы яму сцелюць з розных барваў ложа,
Прахалодны ветрык астудзіў пагоркі тыя
І разнёс па-над прасторам пахі збожжа.

Сціх, гаворыць сам з сабой, як па бяседзе,
Песня сонная тут чутна, рык быдлячы,
Ціхі шэпат і размова каля студні або ў садзе,
Смех хлапцоў, ды немаўлятка ціха плача.

Звон за памёрлых аклікнуў у начы парога,
Нібы думка перад сном звярнула да Бога,
У край духаў, на які чалавек тужліва паглядае
І баіцца яго, прагне й трывожна жадае.

Нешта таемнае ў тых вечаровых барвах зарнічных,
Імгненне жыцця ў мінуласць скацілася знічкай
Дзень прамільгнуў, сённяшняе стала ўчарашнім,
Не павернеш яго чарадзействам, а ніякімі чарамі.
Зараніца яшчэ не світае, а ўжо сёння памерла,

Чалавек стаіць знепакоены над магілаю жэрла.

Жанчыны ля хаты звяраюць свае прыкметы,
На прызбах паселі старыя-сівабароды,
Ім сумна ўбачыць, пазнаць маладыя роды,
Плачуцца старыя, угледзеўшы новыя леты.

Там плуг кінуты перад падворкам брамы
Валы напорыста да плота ціснуцца прама,
Мчыць адчыняць дзятва, і гаспадар заходзіць,
Прысеў на камень, бо ад працы ногі зводзіць,
Гараў  цэлы дзень з канца ў канец поле
І апанураў, сам не мог даць рады болей.

Карова там прыйшла, мычыць на хлеў заўзята,
Вітае гаспадыня яе поўным цэбрам зелля.
Прыбеглі тут авечкі, і лічаць іх дзяўчаты,
І браму адчыняюць, і пашай іх надзеляць.

А ноч прыходзіць ціха, зара ружавее крывава,
І зоркі аднекуль выйшлі, свеціць адна яскрава,
Другая выйшла, і тысячы, і многа мільёнаў,
А пасярод іх паўстаў, як дзіця соннае, чырвонае
Стары месяц з-па-над магіл і лесу ўсё бачыць:

Святло на вёсцы гасне, там-сям дык запазнёна,
Гаспадыня жар згарнула, збанкі у печ засоўвае,
Вясковыя грамады расходзяцца ў малыя гроны
А моладзь коней гуртам у начное скіроўвае.

Як паляцяць, ляцяць, аж зямля грукоча,
У лесе неяк весела, і спаць ніхто не хоча!
Давай агонь раскладваць, доўга ж сядзець
Шум лесу слухаць і да ранку ціха гудзець,
А пад ранак сон іх усё ж упарты зморыць,
А золкія росы і сонца бляск ўзбадзёрыць.

Старцы сядзяць ля карчмы, ці блізка ля хаты,
Сон іх не хіліць, усё ўздыхаюць ды ўспамінаюць:
– Ой, як жа было калісь лепш, весялей, багата.
Цяпер людзей і зямлю мусіць Бог праклінаець,
Бо зямля не так родзіць, а людзі не так кахаюць,
Брат брату стаў воўкам, а зямля злою мачахаю!
Вецер злы над ёю веяў, чорны птах лякаў,
Каб і лён не радзіў і чалавек заўжды плакаў.

Узгадваюць юнацтва, журба з вуснаў ільдзінай,
Аж пакуль не разгоніць певень ранняй гадзінай.

А каля студні дзяўчаты пасядалі наўкола
З песняй на вуснах, са смехам вясёлым,
А вёдры парожнія, дзе ім у думках вады!

Смех поіць ды песня ды клёк малады.

А тут за плотам чутна хлопцаў, як на варце,
Стаяць слухаюць, а наблізіцца баяцца,
Хаця маці старыя і клічуць дзяўчат,
– Зараз! Зараз! І зноўку песні гучаць.

Хіба магчыма спыніць песню маладосці,
Колькі ў тыя часы мінае ўцех, весялосці
І сэрца невыспеванае столькі дум хавае!
Пазней жа крыніца ссякне і сэрца сціхае,
То болем прыціснута, роспаччу раздзёрта,
Або бядою скручана й плачам падпёрта.

24

Помніш вясковы ранак? Сядзем у раздарожжа:
Вёска як на далоні… і на ўсходзе румяна,
Зямля у тумане, зара сябе множыць,
Зіхаціць ды праменіцца росны світанак –
Промні разышліся па небу, раскінуліся, як косы,
Адбіліся ў люстэрку вады і ўсё жывое будзяць.
Вёска не спіць, гамоніць, галёкае шматгалоса,
Чутныя млын, і дубрава, і статак, і людзі…

Хлеў адчыніўся, глядзі, як там гаспадыня
Ўвішна рабыя кароўкі гоніць у статак,
Пашы з вясенняй расою найлепшай не `міне
З пугай пастух. Да вады ён кіруе рагатых.

Коміны хатак дымяць, а дзяды на падворках,
Плуга і рала мацуючы, ўзглядваюць ў неба,
А ці абдорыць нас Госпадзе сёння надвор’ем,
А ці з той нівы здабудзем які бохан хлеба?

Там цягавіта сівыя валы валакуцца бясконца
Цераз сяло з паганятым на бацькоўскія гоні,
Яшчэ згараць загон пакуль не выжара сонца,
А цівун ўсё жывое на паншчыну гоніць.

Усюды жыццё, говар, праца і, як птушкі ў лесе
Співаюць хлопцы бегам, а вецер іх песні нясе
І жэніць з песнямі птушак, што адзываюцца рэхам,
Бо ў маладосці й жыцці тое і гэта пацеха.

Сонца ідзе да гары, а хто здужае ў полі,
Пратоптаны сцежкі ў лес і сухадолле,
За хвіліну вёска пустая, толькі малыя дзеці
Гуляюць на вуліцы, а хлопчык скуголіць,

Сумуе за мамай, –  няма каму даглядзеці.

25
За маці  й дзяўчынка ўслед выбегла ў поле!
Жаваронкі спяваюць над шырокаю нівай,
І песня з яе сэрца выходзіць на волю.
Чаму песня з сумам, але ж і шчаслівая?

Глядзі, як весела йдуць далонь да далоні,
І вочка ўсміхаецца, і кветка на скроні,
А як шчодра абмыла яе зранку раса,
Румянае аблічча, сплеценая каса
І грудзі маладыя, што, як мора ў цішы,
Якаясь надзея так вольна калыша…
Птушкі сневу простаму навучылі ў лесе,
Просіць жаваранка, каб паслухаў песню.

Шукала вачамі,
Шукала па свеце;
Нідзе няма шчасця;
Дзе ж яно скажэце?

Дрыжыць, плача бяроза
Дуб стары баіцца.
Ссякуць у марозы,
Каб печам паліцца.

Траўка казала,
Зжаруць жывёлы.
Вада наракала,
Праглынуць азёры.

Птушачка спытала
За што ястраб гоніць?
Карова рыкала,
Ды іржалі коні.

Спыталася ў хмары
Ці ёй добра ў небе?
Ды сляза на твары,
Пярун рыкаў з себе.

Спытала ў людзей.
Што не бачаць долі?
Не страчваем надзей,
Штодня працуем ў полі.

Шукала вачамі,
Шукала па свеце;
Нідзе няма шчасця;

Дзе ж яно скажэце?

Так ішла дзяўчынка з вочкамі вясёлымі,
За ёй вёў коні старац  поле бараніць
І ён спяваў, а песні несліся над сёламі,
З’яднаны сум і смутак ў адзіную ніць –
Толькі не ў неба глядзела хмурае вока,
Чуючы гэтую песню, а ў зямлю глыбока.

Ты куды ляціш, сокал?
Па-над лесам і полем?
Носяць крылы навокал?
Па здабычу? За воляй?
За вайной? Ці спакоем?
Спяшаецеся  роем?

Куды ляціш, ластаўка,
Маёй хаты прыяцелька,
Сцюжа, холад навокал?
За край мора ў канец?
За мушкамі, за воблака,
Ты гнаная, ці ганец?

Куды ляціш, бусел,
І чаму не весел?
За наедкам добрым,
Ці за скарбам шчодрым.
Ці за словам вольным,
А сказаць хто здольны?

Дзе вы хмарамі ляціце,
Чорныя крукі па свеце?
Ці туды, вайны дзе жор,
Дзе народаў кроў ды мор?

Ці на стары цвінтар?
Ці куды ўкажа Ўладар?

Куды йдзеш, чалавеча?
Скрозь слёзы, агонь ды мечы?
А што сэрцу твайму трэба?
Апраметнае пекла ці неба?
Над табой анёлаў воля,
Дзе скажы твая спатоля?

Куды йдзяце, спяшыце,
Ты сьмерць і ты `жыцце?
Дзе ўчора? Дзе леты?
Дзе мінулыя светы?
Дзе бацькава, дзе дзедава!
Хто скажа? Хто паведае???

26
На ўскрайку лесу, у сутонні схавана,
Сьпі зялёна выгнанка, без крыжа магіла;
Замест знаку збавеньня ў дзёран скавана.
І гняце яе сухая калода і каменя сіла.

Самагубцы цёмнае месца чорны лес хавае,
Калі бледны вандроўнік цёмнаю ноччу
Спатыкнецца аб яе ды шпарка адскочыць,
А гад той чорны за ногі яго быццам хапае.

На раздарожжы адна і ніякага знаку не мае
Ніхто нават імені грэшніка не памятае,
А спытаны мінак аглохлы ад бездарожжа
Шэпча: “Хтось пахаваны, змілуйся Божа!”

А жыццё наша вайна, а хто ўцёк з бою,
Няма й пасьля смерці гонару й спакою,
І хоць літасць часам слязою абдорыць ціха,
Натоўп здранцвелы здрайцу адкіне, як ліха.

На вайне смерць лёгка за ваяводы загадам
І цярпець трэба разам і паміраць разам;
Бяда таму, хто адступіць са страху ці адчаю:
Таго людзі зракуцца, таго й Бог не выбачае.

Магіла! Старая магіла!
Чаго ж ты ля краю леса:
Раскажы пра свайго павесу,
Што яго ў той труне злажыла?

Чаму ты стаіш пакінутая,
А людзі ж так апатуралі,
Жывыя браткі, браткі паўміралі?
Чыёю крывёю, слязамі палітая?

Чаму рукі не сагнуцца,
каб шыпы прыбраць сухія
З магілы таго самагубца,
Ці на спагаду людзі глухія?

Скажы, хто ў табе спачывае,
Герой ты быў ці слімак?
Буйства, віна ці смутак.
Кропля помсты ў табе ці адчаю,

Вецер, шумі ёй! Магіла!
Завядзі песню, скажы слова,
Няхай ажыве, тое што `жыла:
Чыйсьці муж ці ўдава?

Вецер прашумеў па дуброве,
Птах праляцеў, ціха глуха –
Ніхто з магілы не прамовіў,
Ніхто той просьбы не слухаў.

Гарамыка! Цябе ніхто не кране;
Жыццё ці быць зацяжкім магло!
Хто спачынак знайшоў у труне,
Спі пад нязнанай магілай...

27
Родны кут! Прыгожая вёска! Скуль я!
З гадамі больш цішы ў тваіх абшарах,
Бывай, старэнькая ссівелая матуля,
Дабраславі сваё дзіця у светлых марах!

Бачыў я многае: Калі мне адкрыліся вочы,
Пабачыў той лес вялікі, і ў ім шумелі хвоі, *(Раманаў Падляскі)*
О! Яшчэ ў сэрцы шуміць, ажыў бор старэчы
Хай бы зноў лёс завёў мяне ў тыя спакоі!

Нівы былі зялёнымі, а позірк вачэй цікаўных;
Бегаў паўсюль ды губляўся ў чорных лясах
І вяртаўся да красак, да траў п’янкіх і баўных,
Усё  яшчэ красавала ў тых шчаслівых часах!

Увесь свет быў маім тут, аб іншым не марыў.
Мне хвоі шумелі...ды настаў час разлукі,
Сад развітальнай песняй  мяне пакарыў,
У астатні раз красавалі гаі і лугі,
Я хуткай хадою ступіў у свет нязводны,
Дзе віхор чакаў зімні, паўзмрок нелагодны.

Зноў вярнуўся на вёску, але як у іншым краі, *( Доўгае у Літве.).*
Балаты там літоўскія і літоўскія пушчы.
Вольнае птаства вясной у вясёлым граю
У чарот хаваецца, а песню як схаваць птушцы?

Памятаецца другое: на Літве мілыя пенаты,
Як ў квяцістым бэзе сядзіць белая хатка,

Праз дрэвы зрок пранырваў зялёныя шаты,
Здалёк віднелася з крыжам счарнелым каплічка.

Ціха! Ціха і велічна, дрэў зялёных галінкі;
О! Бо рабіць  і жадаць трэба ўсё без супынкі!
Нядаўна вольхі садзілі, і вольхі выраслі...
А нашы баркі кволыя ўверх галовы вынеслі!

Вялі надзеі,  мроі на прастор шырокі
Да рук трапілі стрэльба і конь каравокі,
Сваю песню першую не спеў да канца,
А недаспяваная ніяк і не ўспомніцца...
Хоць пісаў яе тады з крывёй і слязамі...
І ўсё ж...  Воля Бога няхай будзе з намі!

Зноў рушыў пілігрымам, сеў пад чужы парог *(Амельна)*
І клуначак на хвілю расклаў каля ног.
Лес быў навокал іншы, і луг не той, і поле,
Якіясь фарбы іншыя, не Літвы раздолле.

Валынню нейк павеяла, ды не Валынь яшчэ,
Маладому ўсюды добра, а надзея вяшчуння,
Варожыць долю лепшую і ў тым пустым лесе.
Гардзіся, працуй, душа, што ў будучыню рвесся.

Увайшоў сам адзін, а выйшлі ўсе трое,
Шчасце патроілася, але з ім неспакоі.

Ідзем! О! Рай тут! *(Гарадок пад Луцкам)*
Углядаемся з гор, у гэты кут
Пагляд задуменны ў зеляні нырцуе,
І такі край дзівосны, што назад не варочай!
Не вырваць яго з сэрца, не адарваць вочай!

Над зялёнымі лугамі звіваецца рэчка,
Грувасцяцца смела горы каменным палётам.
Тут паўстала белая хатка, як грыбок пад арэхам,
Прыценена грушамі, агароджана плотам.
А далей свіран са стромкім шэрым дахам,

А вакол пшаніцы, смугі лесу, прыжатыя полем,
Лугі шаўкавістыя і вёскі без ліку,
Цэрквы і касцёлы як намаляваныя ...
Там домік шэры скрыўся ў густым садку,
Там пасека курадыміцца на паляне!

Выганы як рушнікі перамяжаюць поле,
І вёскі для агледзінаў паселі на пагорках.
А краявід! Якое раздолле!
Бы сон, і лунаеш ты ў зорках!

Шкада мне іх, і таго агарода нашто садзіў,
І кроплі вады яснай бліскучай ў даліне,
Там мой след чужынец затаптаў і згнабіў,
Навошта па жыцці памяць, калі чалавек згіне!

І цябе мне шкада, старая саламяная стрэха,
Тваё крыло мяне `крыла ад граду, завеі,
Дзе дні маіх клопатаў і надзей прарэха,

Куды я прымроіў мроі, прысумаваў надзеі.

Вёска! Шаноўная вёска, у якую так закаханы,
Трэба з табой развітвацца, не я кірую доляй!
Перастаць табою цешыцца, не меці пашаны,
Ды кіруе Бог лёсам, не быць з табой болей!

Гляджу, развітваюся і плачу, мушу пакінуць,
Не ведаю куды ісці, каму і што вярнуць,
Не ўбачыць гэтых лясоў, лугоў, палёў, пшаніцы,
Не ўсміхнецца да мяне, не астудзіць крыніца!

Не атуліць вечар пагодны крыламі зорнымі
Ля парога хаты мяне з ружанцом ды падзякай;
Зноў ляцець у край нязнаны, у далі прасторныя,
А на тым шляху трымценне й слёзы адзнакай.

Там было мне ціха, было так спакойна!
Маладосць мінула, і старасць дастойна,
Ужо хацеў труну рабіць і капаць магілу!
Рухайся, вандроўнік, рухайся! Бяры кій і сілу,
Вандруй у край нязнаны, ідзі насустрач людзям!
Што ж цела, дык ад сну мёртвага трубы абудзяць?

28

Вёска, даруй крыўды, бо колькі нас бадзячыць,
Якой была раней ты, ніхто ўжо не пабачыць.
І табе кроіць світку новую век найнавейшы:
Ён жыццё іначыць, вядзе свежай сцяжынаю,
Дзень наступны стане нашмат яскравейшым,
Ды яшчэ крыжа старога абмыеш слязінаю.

Бывай спакойна вёска, ты знікнеш як зніклі

Ўсе былыя з’явы, мінулых вякоў дзеці,
Новы век збудуе вёсак й людства суквецці,
А я сёння развітваюся да чаго быў звыклы.

Бачу, бачу змены, што час нам прыносіць:
Новы шлях, новы дом у госці запросіць.
Іншыя людзі, звычаі наведваюць нас,
А горшыя ці лепшыя? – выявіць час.

Мне шкада старой вёскі, чым свет той багаты,
Журавоў маіх студняў, тыноў тканых з хмызу,
Прызбу белую, чорную смаляную хату,
У гародзе спелых вішань, ламанага бэзу.

Шкода і людзей, што жылі душа ў душу
З намі, сэрцы ў такт і далонь пры далоні.
Брацiку, бывай. Мо’ прабачыцца мушу?
Павага чыстым сэрцам і павага сівым скроням.

Новы час ідзе – змены новыя плыняцца,
Божа! Паўстае жыцьцё з попелу новае –
А, ня плач! – хіба з плачу тут нешта спыніцца?
З будучым былое тут шлюб усталёўвае.

Бывай, мой двору, вёска, нівы, цвінтары,
Прыхільная зямля і людзі прыхільныя,
Ты, крыжу, вы, старыя дзядзькі, вы, валадары,
Дубы вячыстыя, вербы пахілыя!
І ясны каменьчык, што зыркае з пярсцёнка, –
Ставок у цяністым лесе, і каліны гронка!

І болей ніколі адзін аднаго не пабачым,
А вобраз твой ў сэрцы навечна адбіўся,
Як вобраз мамы ў сэрцы дзіцячым,

Куды б ні хадзіў, цябе не забыўся.

А ў час немінучае смерці ..
Апошняй слязы мне не сцерці.

